**Гродна**
№17 (523),
29 верасня 2019

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# ПЕРЭГРЫНАЦЫЯ ФІГУРЫ СВ. МІХАЛА АРХАНЁЛА: ВІТАЮЧЫ АБАРОНЦУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА





**НА ПРАЦЯГУ ГОДА Ў БЕЛАРУСІ АДБЫВАЕЦЦА ПЕРЭГРЫНАЦЫЯ КОПІІ ФІГУРЫ СВ. МІХАЛА АРХАНЁЛА З ІТАЛЬЯНСКАГА САНКТУАРЫЯ Ў ГОРНЫМ МАСІВЕ ГАРГАНА. ТАМ ЗНАХОДЗІЦЦА АДЗІНАЯ Ў СВЕЦЕ СВЯТЫНЯ, ЯКАЯ БЫЛА АСВЕЧАНА НЕ ЧАЛАВЕКАМ, А АНЁЛАМ. ГЭТА ЎЧЫНІЎ САМ СВ. МІХАЛ ПАДЧАС АДНАГО СА СВАІХ АБ'ЯЎЛЕННЯЎ НА ГАРЫ СВЯТОГА АНЁЛА. КОПІЯ ФІГУРЫ ЗАВІТАЛА ЎЖО І Ў ПАРАФІІ НАШАЙ ДЫЯЦЭЗІІ: СМАРГОНЬ, НАВАГРУДАК, МАКАРАЎЦЫ І ІНШ.**

*працяг на с. 3*

**“Місія Касцёла грунтуецца на пераменяючай моцы Евангелля”. Папа Францішак**

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### XXVI ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Лк 16, 19–31**

Езус сказаў фарысеям: “Быў адзін багаты чалавек, які апранаўся ў парфіру і тонкае палатно і кожны дзень цудоўна банкетаваў. А нейкі жабрак па імені Лазар ляжаў каля яго-най брамы ў струпах і хацеў насыціцца тым, што падала са стала багацея. Сабакі ж прыходзілі і лізалі струпы ягоныя. Памёр жабрак і ўзнесены быў анёламі на ўлонне Абрагама. Памёр і багаты і быў пахаваны. У пекле, будучы ў пакутах, ён узняў вочы свае, убачыў здалёк Абрагама і Лазара на ўлонні ягоным. І, усклікнуўшы, сказаў: «Ойча Абрагаме, злітуйся нада мною і пашлі Лазара, каб памачыў канец пальца свайго ў ваду і ахаладзіў язык мой, бо я пакутую ў полымі гэтым». Але Абрагам сказаў: «Дзіця, успомні, што ты атрымаў ужо сваё дабро ў жыцці сваім, падобным чынам і Лазар – ліха. Цяпер жа ён тут суцяшаецца, а ты пакутуеш. І да ўсяго гэтага паміж намі і вамі пакладзена вялізная прорва, так што тыя, хто хоча, не могуць перайсці адсюль да вас, ні адтуль да нас не могуць перайсці». Тады сказаў ён: «Дык прашу цябе, ойча, пашлі яго ў дом бацькі майго, бо ў мяне пяць братоў. Няхай засведчыць ім, каб і яны не прыйшлі ў гэтае месца пакуты». Абрагам адказаў: «У іх ёсць Майсей і пракокі, няхай слухаюцца іх». А ён сказаў: «Не, ойча Абрагаме, толькі калі хтосьці з мёртвых прыйдзе да іх, пакаюцца». Тады Абрагам сказаў яму: «Калі Майсея і пракокаў не слухаюцца, то, калі хто і ўваскрэсне з мёртвых, не паверацць»”.

## ФАРМІРАВАННЕ АДЧУВАЛЬНАСЦІ

Матэрыяльныя каштоўнасці аддадзены на службу чалавеку. Аднак, на жаль, часта менавіта чалавек становіцца слугой і нявольнікам мамоны. Прага валодання адбірае здольнасць заўважаць патрэбы бліжніх і клапаціцца пра сапраўдныя каштоўнасці, якімі з’яўляюцца духоўныя дары.

Кожны з нас носіць у сэрцы ўтоеную тугу па Айцу, які можа задаволіць усе жаданні. Зямныя багацці не насычаюць душу, але дапамагаюць справіцца з беднасцю. Калі ўсё, чым мы валодаем, успрымаем як Божыя дары, зможам гэтым дзяліцца з радасцю. У супрацьлеглым выпадку, жадаючы жыць беспклапотна і “шчасліва”, будзем імкнуцца да гэтага любой цаной, а духоўная рэчаіснасць і клопат аб збаўленні перастануць мець для нас значэнне. Зацыкленыя выключна на сабе, можам упасці ў эгаізм і не заўважыць побач “Лазараў”, якія пакутуюць, можа, не столькі ад фізічнага голаду, колькі ад голаду любові, якія пакрыты “струпамі” бесчалавечных адносін і абыякавасці.

Варта час ад часу засяроджвацца на рахунку сумлення адносна найважнейшай запаведзі – любові да Бога і бліжняга. Гэта робіць нас адчувальнымі на Божае слова і захоўвае ад хцівасці. Трэба таксама клапаціцца пра духоўны слух, каб сэрца не стала цвёрдым, як панцыр, праз які нішто не здольна прабіцца. Памятайма, што задачай хрысціяніна з’яўляецца барацьба за веру і вечнае жыццё. Распачатая з запалам, яна прыносіць радасць, бо Пан Бог любіць здзіўляць і ў сваёй шчодрасці часта асыпае чалавека шматлікімі ласкамі, пераўзыходзячы нават самыя смелыя яго чаканні.

**Ці з’яўляецца Бог найважнейшым у іерархіі маіх каштоўнасцей?**

**Як я ўспрымаю іншага чалавека, якога Пан ставіць побач са мной?**

### XXVII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Лк 17, 5–10**

Апосталы сказалі Пану: “Дадай нам веры”. Пан сказаў: “Калі б вы мелі веру з гарчычнае зерне, вы маглі б сказаць смакоўніцы гэтай: «Вырвіся з карэннем і перасадзіся ў мора», – і яна б паслухалася вас. Хто з вас, маючы слугу, які арэ або пасвіць, скажа яму, калі ён вернецца з поля: «Як прыйдзеш, адразу сядай за стол»? Наадварот, ці не скажа яму: «Прыгатуй мне павячэраць і, падперазаўшыся, прыслужвай мне, пакуль буду есці і піць, а пасля будзеш есці і піць ты»? Ці будзе ён дзякаваць слузе гэтаму за тое, што ён выканаў загаданае? І вы таксама, калі выканаеце ўсё загаданае вам, кажыце: «Мы нікчэмныя слугі, бо зрабілі тое, што павінны былі зрабіць»”.

## ПАМНАЖЭННЕ ВЕРЫ

Збаўленне немагчыма асягнуць без веры – належыць нястомна прасіць аб ёй. Прыклад такой малітвы знаходзім у прыведзеным фрагменце Евангелля. Апосталы звярнуліся да Хрыста: “Дадай нам веры”. Бачачы цуды, якія Ён чыніў, чуючы Яго словы і, найперш, заўважаючы Яго з’яднанасць з Айцом на малітве, адчувалі, што ўласнымі сіламі не здолеюць ні зразумець Божыя таямніцы, ні выканаць пакліканне, якім былі адораны. “Пане, дадай нам веры” – гэта адна з самых простых і разам з тым самых важных малітваў Касцёла.

Тым часам многія хрысціяне, просячы ў Бога здароўя ці паспяховага вырашэння складаных спраў, забываюцца пра веру, успрымаючы яе як штосьці відавочнае, здабытае раз і назаўсёды. Аднак гэты дар, атрыманы на св. хросце, трэба нястомна павялічваць. Калі б мы мелі веру з гарчычнае зерне, яна б пераносіла горы – г. зн. рабіла б тое, што з чалавечай кропкі гледжання здаецца немагчымым.

Вера нябачная. Да яе нельга дакрануцца. Не існуе таксама духоўнага амперметра, які б вымераў яе моц. Вера пазнаецца па пладах. Мы не павінны ні саромецца, ні забывацца пра яе. Яна парадкуе думкі, уводзіць у жыццё супакой. Сучасная цывілізацыя, якая губляе свядомасць таго, чым з’яўляецца і куды накіроўваецца, асаблівым чынам патрабуе веры як лякарства ад сваёй абыякавасці і эгаізму.

**Колькі я маю ў сабе дабрыні, веры і любові?**

**Ці жывая мая вера?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Выйграць бой

*Мэта існавання кожнага з нас – спачыць у руках Стварыцеля. Калі мы ў Богу, атрымліваем супакой сэрца, здзяйсненне жаданняў. Толькі тады на самой справе можам цешыцца паўнатой жыцця.*

Усемагутны прагне мець нас у сваёй апецы, каб былі шчаслівыя. У гэтым няма ніякай іншай выгады, проста Ён найлепш ведае, што для людзей добра. Ён сам ёсць Любоў, таму ўсё, што робіць, з’яўляецца любоўю. Аднак існуе таксама непрыяцель, які ненавідзіць Стварыцеля і тое, што Бог любіць, а асабліва чалавека, бо Усемагутны яго вельмі палюбіў. Гэта д’ябал.

Паміж ім і Богам ідзе барацьба, а яе “полем”, “аб’ектам” становяцца людзі. У душы тады яны чуюць 2 галасы: адзін ад Пана, які запрашае да святасці, а другі ад д’ябла, які спрабуе адштурхнуць ад Стварыцеля, прадставіць Яго ў негатыўным святле. Злы робіць усё гэта, каб чалавек адвярнуўся ад Нябеснага Айца. Замест міласэрнага Бога ён спрабуе намаляваць вобраз Валадара, які толькі забараняе, зняволівае, шкадуе жыцця. Менавіта так ён некалі падмануў Еву ў раі, так сёння спрабуе падмануць кожнага з нас.

Д’ябал выйграе духоўны бой, калі чалавек сцвярджае: “Мне Бог непатрэбны, хачу быць адзін”. Бог перамагае, калі чалавек вызнае: “Хачу быць з Богам, аддаю жыццё ў Яго рукі, бо інакш не ўяўляю сваё існаванне”.

Калі людзі давяраюць адзін аднаму, адчуваюць сябе ў бяспецы. Такія адносіны ўмацоўваюць іх жыццё. Супакой паміж мужам і жонкай, братам і сястрой, бацькамі і дзецьмі, сябрамі ўздымае, дадае сіл, дазваляе абаперціся на іншую асобу. Падобна і з Богам: мы павінны даверыцца Стварыцелю, каб здабыць перамогу ў духоўнай барацьбе.

У адным са сваіх пасланняў св. Павел напісаў: “Апраўданыя паводле веры, мы маем мір з Богам праз Пана нашага Езуса Хрыста” (Рым 5, 1). І ў гэтым мэта жыцця – захаваць мір з Богам, таму што ён дазваляе выйграць духоўную барацьбу! Мір у душы ўяўляе сабой тую правільную сувязь са Стварыцелем, поўную любові, адкрытасці, разумення і бяспекі.

**Дарагія Чытачы!**

Трэба памятаць, што духоўны бой можна выйграць пяшчотай і пакорай сэрца, аднак заўсёды з дапамогай Божай ласкі. Таму няхай дух веры і глыбокае ўнутранае жыццё будуць нашым шчытом у барацьбе з нячыстым. Варта чуваць і маліцца, каб не паддацца спакусе, таму што дух сапраўды ахвочы, але цела наша слабое (параўн. Мц 26, 41).

## ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ
## ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Камісія па справах літургічнага душпастырства і сакраментальнага жыцця

Касцёл рэалізуе місію асвячэння праз святую літургію, якая з’яўляецца здзяйсненнем святарства Пана Езуса. Добра перажытая св. Імша – гэта крыніца і вяршыня хрысціянскага жыцця. У ёй абвяшчаецца і цэлебруецца містэрыя Хрыста, пра сутнасць якой вернікі пакліканы сведчыць у свеце.

Праблематыкай, якой займаецца Камісія па справах літургічнага душпастырства і сакраментальнага жыцця, з’яўляецца шырока разуметая літургія Касцёла, асаблівым чынам лакальнага – Гродзенскага. Падчас нарад члены Камісіі засяроджваюць увагу на сфарміраванай літургіі ў парафіях, ажыццяўляемых сакрамантах і сакраменталіях. Іх мэта – зрабіць вернікаў успрыімлівымі да таго, што кожную цэлебрацыю трэба старанна рыхтаваць у адпаведнасці з літургічнымі кнігамі. Гэтая задача адносіцца найперш да душпастыраў і парафіяльнай літургічнай службы.

Другая тэма, якая ўздымаецца падчас прац Камісіі, – душпастырства літургічных груп, у якія ўваходзяць, між іншым, закрыстыяне, арганісты, лектары і міністранты. Асобнай увагі заслугоўвае літургічная музыка, яе якасць і ўдзел вернікаў у спеве. Члены Камісіі адзначаюць, што ўсе асобы, якія прычыняюцца да падрыхтоўкі літургіі, павінны праходзіць сістэматычную літургічную і маральную фармацыю. Вернікам неабходна выконваць свае функцыі так, як іх вызначыў Касцёл.

Да задач Камісіі належыць таксама выпрацоўка адзіных поз і жэстаў падчас цэлебрацыі Эўхарыстыі, беручы пры гэтым пад увагу традыцыю даўнейшай Віленскай архідыяцэзіі і набожнасць мясцовага люду. Падкрэсліваецца важнасць аналізу літургічных звычаяў і традыцый, якія пануюць у дыяцэзіі, каб ацаніць іх і вызначыць шлях да адзінай літургічнай практыкі.

Молімся за наш лакальны Касцёл, за тых, хто яго стварае, каб праз рэгулярную катэхізацыю, асабістыя намаганні і сталы ўдзел у літургіі, асабліва ў маладым пакаленні, у вернікаў захоўвалася адчувальнасць да святых рэчаў.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Перэгрынацыя фігуры св. Міхала Арханёла: вітаючы абаронцу беларускага народа

● працяг са с. 1

***У літургічны ўспамін св. Міхала Арханёла кс. Ігар Лашук, арганізатар перэгрынацыі, раскрывае сутнасць пілігрымавання фігуры анёла і распавядае, як дзякуючы Божаму Провіду маленькая ініцыятыва перарасла ў маштабную справу.***

***– Кс. Ігар, наблізьце, калі ласка, асобу св. Міхала Арханёла. Чым яна блізкая вернікам?***

– Св. Міхал Арханёл сваім імем абвяшчае Божую моц і хвалу. Імя Міхал у перакладзе з габрэйскай мовы азначае “Хто ж як Бог”. Згодна з хрысціянскай традыцыяй, св. Міхал Арханёл з’яўляецца першым і наймагутнейшым сярод анёлаў. Ён лічыцца ахоўнікам Божага трона. Паводле біблейскага аповеду, св. Міхал выступіў супраць збунтаванага Люцыфера і перамог. Ён дапамагае людзям у барацьбе са злом. У літургіі св. Міхала



таксама называюць анёлам супакою. Да яго часта звяртаюцца з просьбамі вывесці душы з чыстца.

“Князь войск нябесных” здаўна апекуецца землямі Беларусі. Яго выява змешчана на старажытным гербе Навагрудка – першай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага, нашай гістарычнай краіны. Сёння св. Міхал Арханёл з’яўляецца галоўным апекуном Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі і ўсяго мясцовага Касцёла. Можна лічыць, што ён для нас самы блізкі памагаты з усяго Нябеснага войска.

***– Што стала галоўным штуршком да правядзення перэгрынацыі ў Беларусі?***

– Усё пачалося з жадання развіваць культ св. Міхала Арханёла ў аднайменнай парафіі ў в. Багданава (Мінска-Магілёўская архідыяцэзія – *заўв. рэд.*), дзе я служыў на працягу 7-мі гадоў. Касцёл там час ад часу нішчылі варожыя сілы. Зло рабіла ўсё магчымае, каб выкараніць веру мясцовых жыхароў, аднак дзякуючы заступніцтву магутнага апекуна святыня заўсёды адраджалася. Ці ж не цуд? І я вырашыў устанавіць на фасадзе касцёла вялікую фігуру св. Міхала Арханёла, каб яна ўзвышалася над усёй багданаўскай зямлёй, заахвочваючы тутэйшых людзей паглыбляць сваю веру.

Неўзабаве Божая воля звяла мяне з італьянцам, які родам з горада Монтэ-Сан-Анджэла, дзе знаходзіцца найстарэйшы санктуарый св. Міхала Арханёла ў свеце. Ён распавёў пра шматлікія аб’яўленні анёла ў горным масіве Гаргана і перэгрынацыю яго фігуры ў розныя краіны. Пасля мяне чакаў яшчэ адзін прыемны сюрпрыз: сябар прапанаваў падарыць копію фігуры з санктуарыя на гары Святога Анёла і дапамагчы транспартаваць яе ў Беларусь. 8 мая 2018 года, у чарговую гадавіну аб’яўленняў св. Міхала Арханёла, мы прынялі ўдзел у св. Імшы ў пячоры ў горным масіве Гаргана і асвяцілі копію цудатворнай фігуры. А пасля рэйсам на прыватным самалёце даставілі яе ў Беларусь. Зразумела, я прыйшоў да высновы, што перш чым ”пасяліцца” ў Багданаве, фігура павінна наведаць усе парафіі нашай краіны.



***– З Вашых назіранняў, як вернікі перажываюць перэгрынацыю?***

– Людзі з вялікім энтузіязмам прымаюць фігуру. Сярод вернікаў адчуваецца моцны рэлігійны ўздым. Кожны візіт у парафію мае свае асаблівасці, адзначаецца чымсьці новым. Запал парафіян і святароў натхняе мяне на новыя ідэі. Так, напрыклад, сёлета 29 верасня маю ў планах паляцець верталётам з Івянца на Анёльскую (Свята-Міхайлаўскую) гару пад Нясвіжам, дзе знаходзіўся касцёл св. Міхала і кляштар айцоў езуітаў.

***– Як адбываецца перэгрынацыя?***

– Звычайна пробашч запрашае наведаць яго парафію, і мы ўзгадняем бліжэйшую вольную дату. Стараюся даставіць як мага менш клопатаў з арганізацыйнымі момантамі: бяру на сябе перавоз і ўсталяванне фігуры ў святыні.

Як правіла, перэгрынацыя распачынаецца ў аўторак – анёльскі дзень – і заканчваецца праз тыдзень. Вернікі атрымліваюць адмыслова падрыхтаваны малітоўнік “Хто ж як Бог”, у якім змешчаны ўсе малітвы праз заступніцтва св. Міхала Арханёла, і мы разам выпрошваем у Бога патрэбныя ласкі. Штодня людзі збіраюцца на св. Імшы, якая цэлебруецца ў розных інтэнцыях. Часам адбываецца ружанцовая малітва да распачацця літургіі, часам адарацыя перад Найсвяцейшым Сакрамантам пасля Імшы.

***– Адна з мэт перэгрынацыі – малітва за Беларусь. Аб чым просіце для нашай краіны?***

– Ідучы шляхам да збаўлення, мы адчуваем патрэбу дзяліцца гэтай радасцю з блізкімі. Жадаем дабра ўсім, з кім лёс наканаваў суіснаваць на створанай Богам зямлі. Молімся за Касцёл у Беларусі, за кіраўнікоў дзяржавы, за памерлых, якія жылі тут вякі таму, і за ўсё тое, што маем. Просім, каб Госпад абярагаў нас ад граху, каб Святы Дух сышоў на гэтую зямлю і аднавіў яе, каб св. Міхал Арханёл захоўваў яе ў спакоі.

***– У чым сутнасць перэгрынацыі фігуры анёла?***

– Складана жыць у свеце, дзе шалее д’ябал, без заступніцтва св. Міхала Арханёла, галоўнага нябеснага воіна. Прыступіўшы калісьці да змагання з цмокам, ён па сённяшні дзень вядзе барацьбу з праявамі зла. Падчас візітаў яго фігуры ў парафіі шмат хто можа пазнаёміцца або нанова адкрыць для сябе не толькі вобраз гэтага вялікага арханёла, але і сілу малітоўнага адзінства з анёламі. Кожны з нас патрабуе іх аховы.

Аднак самае важнае, што хочацца данесці людзям, – гэта спрадвечнае пасланне св. Міхала: “Хто ж як Бог”. Мы будзем ісці па памылковым жыццёвым шляху, пакуль не зразумеем, што з’яўляемся стварэннямі Госпада і ніхто не можа зраўняцца з Ім.

*Ангеліна Марцішэўская*



## Малітва да св. Міхала Арханёла

**Святы арханёле Міхале, князь войскаў анёльскіх! Прыйдзі на дапамогу людзям, якім паграсжае сіла цемры. Яны былі створаны па падабенстве Божым, адкуплены праз жыццё, смерць і ўваскрасенне Езуса Хрыста, Сына Божага, прызначаны святыняй Божай, каб прабываў у іх Святы Дух.**

**У табе, святы Міхале, Касцёл мае свайго абаронцу і апекуна, ты вядзеш збаўленых да нябеснага шчасця. Прасі Бога аб спакоі, каб перамог уладу сатаны, сейбіта хаосу, і каб не дазволіў трымаць людзей у няволі і шкодзіць Касцёлу. Няхай Беззаганная Панна Марыя, апранутая ў сонца Каралева анёлаў, праз цябе струшчыць галаву антыхрысту і абароніць сваіх зямных дзяцей ад яго варожага ўплыву.**

**Святы арханёле Міхале, абаронца хвалы Найвышэйшага, занясі нашы просьбы да Бога і выпрасі для нас Яго міласэрнасць. Беражы ў змаганні супраць спакус і пастак злога духа, будзь нам абаронаю. Князь войска нябеснага, моцаю Божаю скінь у пекла сатану і іншых злых духаў, якія на згубу душ снуюць па свеце. Паспрыяй, каб мы праз усю вечнасць былі верныя твайму закліку “Хто ж, як Бог!”. Амэн.**

## Слова для жыцця

***Папа Францішак***



*Усе мы – гэта місія ў свеце, таму што кожны з’яўляецца плёнам Божай любові. Нават калі б бацька і маці здрадзілі любоў падманамі, нянавісцю і нявернасцю, Бог ніколі не выходзіць з дару жыцця, як заўсёды, прадвызначаючы кожнага са сваіх дзяцей дзеля свайго жыцця Божага і вечнага (параўн. Эф 1, 3–6).*

*Гэтае жыццё перададзена нам у св. хросце, які дае веру ў Езуса, Пераможцу граху і смерці, адраджае па вобразе і падабенстве Бога і ўключае ў цела Хрыста, якім з’яўляецца Касцёл. У гэтым сэнсе хрост сапраўды неабходны для збаўлення, таму што гарантуе, што ў доме Айца мы з’яўляемся сынамі і дочкамі, заўсёды і ўсюды, што мы не сіроты, не чужыя і не нявольнікі. Тое, што ў хрысціяніна з’яўляецца сакраментальнай рэчаіснасцю, рэалізацыя якой – Эўхарыстыя, заўсёды становіцца пакліканнем і прызначэннем кожнага мужчыны і кожнай жанчыны ў чаканні навяртання і збаўлення. Таму што хрост – гэта стрыманае абяцанне Божага дару, які робіць чалавека сынам у Сыне. Мы з’яўляемся дзецьмі нашых прыродных бацькоў, але ў хросце атрымліваем першаснае бацькоўства і сапраўднае мацярынства: не можа мець Бога Айцом той, хто не мае Касцёл як Маці (параўн. св. Кіпрыян, De catholicae unitate Ecclesiae: PL 4, 503 A). Такім чынам, у бацькоўстве Бога і мацярынстве Касцёла закладзена наша місія, таму што ў хросце заключаецца пасланне, выражанае Езусам у пасхальным наказе: “Як паслаў Мяне Айцец, так і Я пасылаю вас, поўных Святога Духа, для з’яднання свету” (параўн. Ян 20, 19–23; Мц 28, 16–20).*

*Таксама і сёння Касцёлу патрэбны мужчыны і жанчыны, якія на моцы хросту шчодра адкажуць на заклік пакінуць свой дом, сям’ю, бацькаўшчыну, мову, лакальны Касцёл. Яны пасланыя да язычнікаў, у свет, які яшчэ не змяніўся праз сакраманты Езуса Хрыста і Яго святога Касцёла. Абвяшчаючы Божае слова, даючы сведчанне Евангелля і цэлебруючы жыццё Святога Духа, яны заклікаюць да навяртання, хрысцяць і ахвяруюць хрысціянскае збаўленне ва ўшанаванні асабістай годнасці кожнага, у дыялогу з культурамі і рэлігіямі народаў, да якіх пасланыя. “Missio ad gentes”, заўсёды неабходная Касцёлу, фундаментальным чынам спрые сталаму працэсу навяртання ўсіх хрысціян.*

*Фрагмент паслання на Надзвычайны місійны месяц 2019*



◆ *Папа Францішак прызначыў ва Украіне дапаможным біскупам Кіева-Жытомірскай дыяцэзіі кс. Аляксандра Язлавецкага. Да гэтага часу святар працаваў канцлерам і мадэратарам дыяцэзіяльнай курыі. Малады ксёндз (40 гадоў) увойдзе ў топ-5 самых маладых рымска-каталіцкіх біскупаў свету. Ён толькі на 3 месяцы старэйшы за наймалодшага іерарха, якім з'яўляецца біскуп Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы Пятро Лаза. Адметна, што ўсе 5 іерархаў нясуць служэнне ва Украіне.*

◆ *Дэлегацыя Святога Пасада выступіла з заявай на заключным пасяджэнні 27-га Эканаміка-экалагічнага форуму АБСЕ, што праходзіў у Празе (Чэхія). Сярод мноства тэм, якія абмяркоўваліся на сустрэчы, ватыканскі бок звярнуў увагу на навакольнае асяроддзе і належнае кіраванне рэгіянальнай бяспекай. Было падкрэслена, што многія экалагічныя праблемы, асабліва ў Еўропе, могуць быць вырашаны эфектыўна толькі пры цесным міжнародным супрацоўніцтве. Святы Пасад лічыць, што дабраму і справядліваму эканамічнаму росту перашкаджае адсутнасць належнага дзяржаўнага і карпаратыўнага кіравання.*

◆ *Епіскапат Іспаніі выпусціў дакумент пад назвай "Мая душа шукае Бога, Бога жывога. Дактрынальныя ўказанні па хрысціянскай малітве". Яго мэта – паказаць "характар і багацце малітвы і духоўнага вопыту, укаранёнага ў Адкрыцці і Традыцыі Касцёла". Іерархі перасцерагаюць ад прыёмаў і метадаў медытацыі, якія ўводзяцца ў іншых рэлігійных традыцыях і часта прыводзяць да "адмовы ад каталіцкай веры". У прыватнасці, звяртаюць увагу на будысцкую дзэн-методыку.*

◆ *500-годдзе хрысціянства на Філіпінах адзначыць Касцёл у 2021 годзе. Прэзідэнт краіны Радрыга Дутэртэ выступіў супраць святкавання ўрачыстасці. Ён сцвярджае, што Фернан Магелан прыйшоў на іх землі з "крыжом і зброяй". Віцэ-прэзідэнт Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Філіпінаў Пабла Давід заявіў, што хрысціянская вера, якую прынеслі канкістадоры, натхніла філіпінцаў на "мару пра свабоду і дэмакратыю". "У канчатковым рахунку яна матывавала абараніць асноўнае індыйскае насельніцтва і спыніць тыранію і каланіяльнае кіраванне", – патлумачыў іерарх.*

◆ *Акадэмія сужэнстваў і сем'яў у Катавіцах (Польшча) распрацавала інфаграфіку пра важнасць касцёльнага шлюбу для трываласці сямейнага саюза. Згодна з прыведзенымі данымі, палова сужэнцаў, якія жывуць у грамадзянскім шлюбе, разыходзяцца. Такі ж лёс напаткаў толькі трэць тых, хто бярэ касцёльны шлюб, але ў далейшым не практыкуе рэлігійнае жыццё. Хто разам удзельнічае ў св. Імшах па нядзелях, разыходзяцца ў выпадку 1:50. Найменш разводаў закранаюць пары, якія штодзённа прымаюць удзел у св. Імшах і супольна моляцца – 1:1429.*

*vaticannews.va; credo.pro; wiara.pl*

# З гісторыі дайлідскага касцёла

**Сёлета наша парафія Апекі Найсвяцейшай Панны Марыі ў Дайлідках (дэканат Астравец) адзначае нямала юбілейных дат. 210 гадоў таму быў узведзены касцёл, які падчас Першай сусветнай вайны згарэў у пажары. Мінула 90 гадоў, як яго нанова выбудавалі ды асвяцілі, і 30 гадоў, як святыня была вернута католікам пасля адабрання савецкімі ўладамі. А яшчэ супала, што пробашч кс. Алег Шпень святкуе 20-годдзе сваіх святарскіх пасвячэнняў. Столькі нагод для радасці!**



Сучасны знешні выгляд святыні ў Дайлідках

## ПАЧАТКІ

Касцёл у Дайлідках пабудаваны ў 1809 годзе як філіяльны ад парафіі Солы (да гэтага часу тутэйшыя землі былі падзелены паміж сольскай і гудагайскай парафіямі). Утвораная парафія працяглы час менавалася Даўкшышскай, па назве мясцовага маёнтка, пакуль Даўкшышкі не аб'ядналіся з суседнімі вёскамі Вагісы і Дайлідкі.

Вядома, што да 1859 года пры касцёле служыў кс. Юстын-Корвін Саковіч (пахаваны каля святыні). Гэта пад яго кіраўніцтвам у Тракелях, дзе б'е цудадзейная крыніца, была



Паўразбураны касцёл, 1988 год

ўзведзена драўляная капліца св. Якуба. Да сёння там у ліпені адбываецца фэст у гонар святога.

У 1917 годзе касцёл у Даўкшышках спалілі нямецкія захопнікі. Вернікі сталі збірацца на малітве ў капліцы на могілках. На месцы знішчанай святыні было вырашана пабудаваць новую, у закапанскім стылі.

Прыехалі майстры з Вільні. У дапамогу ўключыліся таксама мясцовыя жыхары. Вернікі ахвяравалі прыватныя сродкі, узялі доўгатэрміновую грашовую пазыку. Дрэва вазілі коньмі з-пад Доржы, што каля Іўя. Некалькі гадоў нястомнай і адданай працы – і святыня паўстала. Разам з ёй была ўзведзена плябанія, дом для арганіста, гаспадарчыя пабудовы.

Асвячэнне касцёла адбылося 13 кастрычніка 1929 года. Абрад здзейсніў арцыбіскуп Віленскі Рамуальд Ялбжыкоўскі. Сведкі ўзгадваюць, што, каб урачыста спаткаць важнага госця, тагачасны падсолтыс Баляслаў Сяргей пазычыў у Вільні форму кавалерыстаў. Была падрыхтавана ганаровая варта ў складзе 4-ох мужчын. На конях, з шаблямі, яны суправаджалі арцыбіскупа, які ехаў у Даўкшышкі на аўтамабілі.

## ЧОРНЫЯ ПЛЯМЫ

Да 1949 года парафія налічвала каля 2-юх тысяч чалавек. Акурат у гэты час у касцёле нёс паслугу кс. Аляксандр Песляк. 3-за хваробы святар занядужаў. Людзі прыносілі яго ў касцёл у крэсле. Як памёр, пахавалі пробашча каля касцёла, а сама святыня была зачынена.

Мясцовыя ўлады перарабілі касцёл у збожжасховішча. Некаторыя абразы са святыні вернікі перадалі ў сольскі і астравецкі касцёлы, некаторыя разабралі па сваіх хатах. Місійны крыж быў выкарчаваны. Металічныя рэчы вывезлі на лом. Фігуркі з шопкі аддалі гуляцца дзецям...

Нядобра ўсё гэта скончылася для людзей, якія ўдзельнічалі ў варварскай прафанацыі. Хтосьці сышоў з розуму, у кагосьці загінулі дзеці, пашалела жывёла, згарэла хата... Старшыня калгаса выехаў, а сакратар партарганізацыі, забіты горам, прыйшоў пад касцёл і ўкленчыў на тым месцы, дзе быў місійны крыж. Стаў маліцца і перапрашаць за ўчыненыя грахі. Можа, з кіламетр поўз на каленях на могілкі, куды людзі завезлі і ўкапалі крыж. Толькі пасля гэтага для яго сям'і наступіла палёгка.

## БАРАЦЬБА ЗА СВЯТЫНЮ

У 1982 годзе ў касцёле быў зроблены падсобны цэх. У гэты час з Солаў прыехаў працаваць Валерый Лісоўскі. Яго 2 станкі былі размешчаны на месцы былога галоўнага алтара і з боку касцёла, дзе знаходзіўся канфесіянал. Пазней ён, малады святар, успомніў пра гэта падчас прымiцыйнай св. Імшы, якую цэлебраваў у дайлідскім касцёле: "Некаторы час назад я тут працаваў на станках, а сёння знаходжуся ў якасці святара".

У 1988 годзе мясцовыя ўлады вырашылі перарабіць будынак святыні ў спартыўную залу. Крыж з вежы касцёла быў скінуты, прэзбітэрый адрэзаны. Пасля гэтага тутэйшыя вернікі і духавенства з суседніх парафій сталі прыкладваць шматлікія намаганні, каб адваяваць святыню назад. Нягледзячы на вялікае супраціўленне з боку савецкай улады, у 1989 годзе касцёл, паўразбураны, быў вернуты вернікам.

29 лістапада таго ж года пасля 40-гадовага перапынку адбылася св. Імша, якую цэлебраваў дэкан Астравецкага дэканата кс. прэлат Алаізій Тамковіч разам са святарамі з Польшчы. 3 верасня 1990 года св. Імшы сталі адбывацца рэгулярна: па нядзелях і ў святы (дагэтуль вернікі збіраліся на малітву ва ўбогай хаце мясцовай жыхаркі Генавефы Бурштыновіч). Адначасова з гэтым распачалося аднаўленне касцёла і мясцовай супольнасці вернікаў.

## АДРАДЖЭННЕ ПАРАФІІ

20 красавіка 1991 года касцёл быў нанова асвечаны арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам. На ўрачыстасці таксама прысутнічаў прызначаны папам Янам Паўлам ІІ біскуп Аляксандр Кашкевіч.

Вялікую дапамогу ў рэканструкцыі святыні аказаў мясцовы калгас: выдзеліў пэўную грашовую суму і працоўную брыгаду. 3 сольскага касцёла быў вернуты і рэстаўрыраваны абраз Маці Божай. Напісаны новыя



Адбудаваны пасля пажару касцёл, 1929 год

абразы, стацыі. Пабудаваны галоўны алтар Апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, бакавыя – св. Тэрэзы і св. Юзафа. З Варонежа прывезены 2 новыя званы – вагой 500 і 300 кг.

Да 1999 года пробашчамі ў парафіі служылі а. Бярнард Радзік і а. Казімір Мараўскі з Ордэна Кармэлітаў Босых, якія апекаваліся таксама гудагайскай і сольскай парафіямі. Гэтых святароў вернікі вельмі палюбілі. Яны прыйшлі да людзей у вельмі складаны час. Былі тымі, хто прытуліў да сябе, супакоіў і паказаў, што яны не адны: як у хвіліны радасці, так і ў хвіліны смутку. У 1999 годзе пробашчам стаў кс. Леанард Станкоўскі.

## ЧАСЫ РОСКВІТУ

19 лістапада 2002 года біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч устанавіў дэкрэтам парафію Дайлідкі. Да яе афіцыйна была далучана Станцыя Ашмяны з навакольнымі вёскамі. Пробашчам прызначаны кс. Алег Шпень. Пасля доўгага часу сярод вернікаў зноў пасяліўся ксёндз. Гэтая падзея бязмерна ашчаслівіла людзей.

У 2003 годзе каля касцёла была ўстаноўлена фігура Маці Божай Апекі. У наступным годзе набыта і асвечана фігура св. Антонія. Культ гэтага святога асаблівым чынам ушаноўваецца ў парафіі. Штогод у чэрвені, а таксама ў кожны аўторак вернікі супольна звяртаюцца праз яго да Бога з просьбамі і падзякамі.

У 2006–2011 гадах касцёл аднавілі звонку і ўнутры. У кастрычніку 2009 года ў парафіі адбыліся святыя місіі, якія правялі былыя пробашчы а. Бярнард Радзік і а. Казімір Мараўскі на чале з біскупам Аляксандрам Кашкевічам. Каля святыні ўсталявалі новы місійны крыж.

У 2017 годзе з Польшчы былі прывезены рэліквіі бл. Міхала Сапоцькі, нашага земляка. Сёлета ў апошнюю нядзелю верасня на Станцыі Ашмяны будзе асвечана капліца Божай Міласэрнасці і бл. Міхала Сапоцькі. Тут, на тэрыторыі Беларусі, упершыню з'явіцца святыня ў гонар бласлаўлёнага. Такім чынам, маем яшчэ адну вялікую нагоду для радасці.

За ўсе даброты, якімі Бог адорвае нашу парафію Апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, мы, вернікі, шчыра Яму дзякуем. Хвала Пану! Пакорна просім Найвышэйшага блаславіць нас і спасаць неабходныя ласкі на далейшыя гады.

*Старшыня касцёльнага камітэта Казімір Варановіч*

# Прызнанне касцёльнага шлюбу несапраўдным на практыцы

***"Што Бог злучыў, чалавек няхай не разлучае", – праматўляе святар у час шлюбу. Аднак штогод у касцёльныя суды трапляе мноства заяў аб прызнанні несапраўднасці сакраманту сужэнства. Ці неабходна для дадзенай справы згода абодвух бакоў? Што станецца, калі адзін з сужэнцаў не будзе з'яўляцца на слуханнях? На гэтыя і іншыя пытанні адказвае кс. канонік Цэзарый Міх, афіцыял Касцёльнага суда Гродзенскай дыяцэзіі.***

***– Кс. Цэзарый, што значыць прызнанне сужэнства несапраўдным?***

– Згодна з тлумачэннем Каталіцкага Касцёла, нельга казаць пра "касцёльны развод", г. зн. пра скасаванне сужэнства праз развод. У святле кананічнага права дапускаецца прызнанне несапраўднасці касцёльнага шлюбу. Яно заключаецца ў вызначэнні, што саюз быў заключаны няправільна.

***– Як выглядае працэс прызнання сакраманту сужэнства несапраўдным?***

– Працэс распачынаецца напісаннем іскавай скаргі, у якой неабходна падаць асабістыя даныя (уласныя і сужэнца), а таксама поўнасцю апісаць сітуацыю. Належыць указаць інфармацыю аб тым, калі стораны пазнаёміліся, як праходзілі дашлюбныя адносіны, пералічыць прычыны заключэння і распаду сужэнства. Да іску трэба далучыць адрасы мінімум 2-ух сведкаў, якія могуць пацвердзіць тэзісы, названыя ў іску. Далучаецца таксама пасведчанне шлюбу (не памятка!). Для гэтага неабходна звярнуцца ў парафію, дзе было заключана сужэнства, і папрасіць святара выдаць такі дакумент на патрэбы касцёльнага суда. З усімі дакументамі належыць прыйсці ў судовую канцылярыю, пасля чаго справа атрымлівае ход.

Чарговы крок – скіраванне скаргі да абаронцы шлюбнага саюзу, які павінен вынесці папярэдняе заключэнне адносна таго, ці падыходзіць справа для разгляду. У выпадку пазітыўнага адказу прымаецца рашэнне аб яе тыпе – паскораным ці звычайным. Пасля пісьмовага паведамлення адказчыку, у якім задаём некалькі важных пытанняў, між іншым, чаму, на думку гэтага чалавека, шлюб распаўся, ці згодны ён з мэтай справы. Адказу чакаем 2-3 тыдні. Як правіла, людзі адказваюць. Рэдка бывае, што нехта не адпісвае. Хіба што ліст быў высланы на беларускі адрас, а асоба жыве за мяжой. Сям'я можа не перадаць ёй гэтай інфармацыі, альбо перадае, але чалавек вырашае, што не хоча ўдзельнічаць у судовым працэсе.

Потым стораны выклікаюцца на слуханне. Кожны прыходзіць адзін і выслухоўваецца асобна. Затым выклікаем сведкаў. Пасля збору матэрыялаў справы (сведчанні істца, сведчанні адказчыка, сведчанні сведкаў з аднаго ці 2-ух бакоў) суд знаёміцца з наяўнымі доказамі.

Часам можа ўзнікнуць неабходнасць сустрэчы ўдзельнікаў працэсу з экспертам: псіхіятрам, псіхолагам, гінеколагам, сексолагам з мэтай поўнага высвятлення справы. Калі няма такой патрэбы, стораны могуць азнаёміцца з састаўленымі актамі, ці з усім згодныя. На гэтым этапе яшчэ ёсць магчымасць прад'явіць якія-небудзь важныя доказы. Пасля публікацыі актаў справа накіроўваецца да абаронцы сужэнскага саюзу. Варта адзначыць, што сужэнскі саюз карыстаецца прыхільнасцю закона, г. зн. што пакуль афіцыйна не будзе прызнана несапраўднасць заключэння шлюбу, ён з'яўляецца сапраўдным.

Свой вердыкт па справе выносяць 3 суддзі. Затым абвяшчаецца прысуд у імя Найсвяцейшай Тройцы, дзе абгрунтоўваецца, чаму сужэнства было прызнана сапраўдным ці несапраўдным. Працэс вядуць наступныя асобы: старшыня трыбунала, 2 суддзі, абаронца шлюбнага саюзу і натарыус, без подпісу якога акты і рашэнне суда не маюць юрыдычнай сілы.

***– Ці здараецца, што той, хто падае іск аб прызнанні шлюбу несапраўдным, не абвінавачвае адказчыка, а сцвярджае, што гэта ён быў нясталы для шлюбу?***

– Так. Звычайна гэта "ўсплывае" падчас праслуханняў, паколькі ў скарзе ісцец не засяроджвае на гэтым увагі. Чалавек пачынае гаварыць нешта накшталт: "Калі я браў шлюб, мне было толькі 20 гадоў і быў вельмі нясталы, не надаваўся для сужэнства. Цяпер зусім інакш гляджу на жыццё".

***– У суд звяртаюцца пераважна маладыя асобы?***

– Узрост людзей розны, аднак часцей за ўсё да нас звяртаюцца маладыя, якія заключылі шлюб некалькі гадоў таму. Прыходзяць таксама асобы сярэдняга ўзросту. Пасля 20-ці або больш гадоў сужэнства.

Здараецца, што святар падчас душпастырскіх візітаў пытаецца ў людзей, якія жывуць адзін з адным у нефармальным, цывільным саюзе, ці маюць нейкую перашкоду для заключэння шлюбу, і чуе ў адказ, што адзін з іх раней быў у іншым сужэнстве. Тады святар скіроўвае іх у касцёльны суд і раіць распачаць працэс аб прызнанні несапраўднасці папярэдняга шлюбу. Варта падкрэсліць, што не існуе ніякіх часавых абмежаванняў для падачы іску. Можна звярнуцца ў суд нават праз многія гады пасля распаду сям'і. Пераважная большасць людзей, якія падаюць іск аб прызнанні шлюбу несапраўдным, кіруецца ўласнай духоўнай карысцю. Жывучы без шлюбу, яны не могуць прыступаць да св. Камуніі нават у такія найважнейшыя хвіліны, як, напрыклад, хрост свайго дзіцяці.



***– Як доўга працягваецца працэс аб прызнанні шлюбу несапраўдным?***

– Уся працэдура – ад моманту прыняцця іскавай скаргі да вынясення прысуду – павінна працягвацца год, аднак на практыцы можа зацягнуцца на паўтара. Да нядаўняга часу пазітыўнае рашэнне суда трэба было скіроўваць у другую інстанцыю, каб сваім дэкрэтам яна пацвердзіла, што працэс быў праведзены правільна і прысуд справядлівы. Аднак папа Францішак змяніў шлюбны закон, таму сёння рашэнне першай інстанцыі не трэба пацвярджаць у другой. Пасля абвяшчэння прысуду старанам даецца 15 дзён на апеляцыю, якая павінна быць апраўдана, напрыклад, тым, што суд не праслухаў заяўленага сведку, не ўлічыў меркавання эксперта і інш. Апеляцыі, пададзеныя ў Гродне, разглядаюцца мінскім касцёльным судом, а калі падобная гісторыя адбылася ў Мінску, тады справай займаецца гродзенскі суд.

***– Ці кампетэнтны касцёльны суд у Гродне разглядаць усе справы аб прызнанні сужэнства несапраўдным?***

– Раней у законе сцвярджалася, што працэс павінен весціся на тэрыторыі дыяцэзіі, дзе быў заключаны шлюб. Сёння працэдура спрошчана: у суд можна звяртацца там, дзе жывеш. Зацікаўленая асоба мае права пайсці ў мясцовую судовую канцылярыю і паведаміць, што хоча распачаць справу.

***– Ці праўда, што сёння назіраецца павелічэнне попыту на паслугі, звязаныя з прызнаннем несапраўднасці сужэнскага саюзу?***

– Канешне, назіраем рост колькасці іскаў, якія да нас паступаюць. Магчыма, гэта звязана з тым, што сёння вельмі шмат людзей, якія, заключаючы сакрамант сужэнства, з'яўляюцца нясталымі ні эмацыянальна, ні псіхічна, ні рэлігійна. Адсюль такое мноства разводаў.

На жаль, мы жывём у свеце, дзе пануе разводны менталітэт. Нават ведаючы аб неразрыўнасці сакраманту сужэнства, пары нярэдка думаюць: калі штосьці будзе не так, то зможам развесціся. Людзі не спраўляюцца з праблемамі, не хочуць нармальна размаўляць адзін з адным, разам пераадольваць крызісныя сітуацыі. А каб змагацца, трэба па-сапраўднаму кахаць, мець сілы і матывацыю. Гэтага сучаснаму чалавеку часта не хапае.

*Кінга Красіцкая*







### *З Беларусі ў Афрыку*

***Настаяцель кустодыі Меншых Братоў Капуцынаў Беларусі бр. Алег Шэнда здзейсніў візіт у архідыяцэзію Лібервіль (Габон, Цэнтральная Афрыка).***

*Сустрэча стала магчымай дзякуючы запрашэнню арцыбіскупа Лібервільскага Базыля Мвэ Энгонэ SDB. У ходзе візіту рознабакова абмяркоўваліся асаблівасці і патрэбы габонскага Касцёла, а таксама магчымыя шляхі супрацоўніцтва.*

*Гісторыя прысутнасці капуцынаў у Габоне налічвае няпоўных 20 гадоў. За гэты час манахі разгарнулі там актыўнае душпастырства. Між іншым, яны клапоцяцца пра хворых і апекуюцца нацыянальным санктуарыем Маці Божай Габонскай.*




### *"Польшча пад крыжам"*

***Такую назву мела евангелізацыйная сустрэча, цэнтральная падзея якой адбылася на гары Святы Крыж. Вернікі сабраліся разам, каб маліцца ў інтэнцыі пераадолення крызісу веры ў Касцёле.***

*Падчас урачыстасці ўдзельнікаў чакаў падарунак – прайграванне запісу гаміліі св. Яна Паўла II, прамоўленай 7 чэрвеня 1991 года ў тым самым месцы. На заканчэнне св. Імшы, якую ўзначаліў біскуп Вроцлаўскі Веслаў Мерынг, адбылося асвячэнне прынесеных вернікамі крыжоў.*

*Малітва ў рамках акцыі была арганізавана ў 800 месцах па ўсёй Польшчы, а таксама ў Аўстраліі, Канадзе, Ірландыі, Англіі, ЗША, Бельгіі, Галандыі, Аўстрыі, Казахстане. Пра свой удзел у акцыі заявілі Іерусалім і Меджугор'е.*




### *Жорсткае забойства*

***У Партугаліі знойдзена цела 62-гадовай с. Антоніі Пінье, што належала да Кангрэгацыі Служак Марыі Дапаможніц Хворым.***

*Пасля нядзельнай Эўхарыстыі наркаман папрасіў місіянерку падвесці яго дадому і ўдзяліць яму там медыцынскую дапамогу. Будучы медсястрой, яна з вялікай адданасцю служыла хворым і патрабуючым. Як вызначылі следчыя, злачынец спачатку забіў яе, а потым згвалціў.*

*С. Антонія Пінье належала да супольнасці ўжо 40 гадоў. Канферэнцыя манаскіх інстытутаў Партугаліі падкрэслівае, што яна была "сапраўднай апосталкай на перыферыях сярод самых патрабуючых, а аддаючы сваё жыццё да канца, засталася сведкам Хрыста, які праліў кроў за адкупленне грахоў чалавецтва".*



## Ці можна звяртацца да празорцаў?

*У кнізе Дзеяў Апосталаў апісваецца павучальная гісторыя, якая наглядна паказвае прыроду празорлівасці. Гаворка ідзе пра адну місійную вандроўку апостала Паўла ў горад Філіпы. Яму спадарожнічаў евангеліст Лука, які і вядзе апавяданне ад 1-ай асобы: "Калі мы ішлі на малітву, нам сустрэлася адна служанка, якая мела духа прадбачання і прадказаннямі здабывала сваім гаспадарам вялікія сродкі" (Дз 16, 16). Тут ясна сказана, што апантанасць можа праяўляцца і ў прыгожай форме, прадраканнямі, г. зн. у прадбачанні. "Ідучы за Паўлам і за намі, яна крычала: «Гэтыя людзі – слугі Найвышэйшага Бога, яны абвяшчаюць нам шлях збаўлення». Так рабіла яна шмат дзён" (Дз 16, 17–18). Як жа рэагуе святы апостал? "Павел, раззлаваўшыся, павярнуўся і сказаў духу: «У імя Езуса Хрыста загадваю табе выйсці з яе». І той адразу выйшаў" (Дз 16, 18).*

*Такім чынам, з тэкста Святога Пісання відаць, што прадказанні могуць выходзіць ад дэманаў. Пры гэтым важна ўлічваць, што дэманы, у адрозненне ад анёлаў, не ведаюць сапраўднай будучыні чалавека. Анёлам будучыню можа адкрыць Бог, а дэманам недаступна святло Святога Духа. Стала быць, дэманы не могуць сапраўды прадказваць і прарочыць. Але злыя духі па сваёй прыродзе валодаюць тонкім інтуітыўным чуццём, выдатна ведаюць чалавечую псіхалогію, умеюць будаваць лагічныя звязкі. Таму цёмныя духі не столькі прадбачаць, колькі аналізуюць магчымую будучыню чалавека, паведамляюць гэта спірыту або вешчуну, а той перадае свайму заказчыку. Акрамя таго, яны могуць прадказваць тое, на што потым самі будуць мець свой цёмны ўплыў.*

*Зварот да астролагаў, прадказальнікаў, хіромантаў, празорцаў і да т. п. звязаны з той распаўсюджанай памылкай, што будучыня разглядаецца як загадзя прапісаная, гатовая гісторыя. Будучыня прыпадабняецца тэксту, запячатанаму ў канверт, які не адкрываецца звычайнаму чалавеку, але які можна прачытаць з дапамогай таемных ведаў: нібы прыадкрыць канверт і падглядзець, што там. На самой жа справе карціна быцця зусім іншая – будучыня пішацца штодзённым жыццём.*

*Чалавек надзелены вольнай воляй. А калі ён вольны ў сваіх дзеяннях, строга прапісанага заўтра быць не можа. Вядома, Бог прыадкрывае нешта з будучыні чалавецтва, але гэта звязана не з тым, што Ён падрыхтаваў для чалавека загадзя нязменны лёс, а з тым, што Ён вышэйшы і мудрэйшы, а Яго ўсёпранікальнаму позірку адкрыты глыбіні нашых сэрцаў, нашы свабодныя рашэнні і жаданні. Інакш кажучы, у Бога для кожнага ёсць план, але рэальны лёс складаецца з асабістых узаемаадносін людзей з Божым Провідам. Усё гэта і стварае далейшы жыццёвы шлях чалавека.*

*С. Ганна Мізавец SJE*
**Паводле waladarka.by**

# Ружанцовая зброя з Неба



**Ружанец часта называюць зброяй, што дазваляе перамагаць дэманаў і супрацьстаяць грахам. Яго ўспрымаюць таксама як шанц на збаўленне, паколькі паспяхова дапамагае вымаліць для душы вечнае жыццё. У гісторыі многіх святых і блаславёных Ружанец адыгрываў вельмі важную ролю, нягледзячы на тое, што гэта надзвычай складаная малітва.**

### АБАРОНА АД ЗЛА

"Дайце мне армію людзей, якія адгаворваюць Ружанец, і я заваюю свет", – сказаў некалі бл. Пій VII, падкрэсліваючы магутнасць гэтай малітвы. Моц Ружанца не абстрактная, а абсалютна рэальная. Так, напрыклад, Францішак – адзін са сведкаў аб'яўленняў Маці Божай у Фаціме (Партугалія) – быў збаўлены менавіта праз гэтую малітву. Калі хлопец спытаўся ў Марыі, ці пойдзе ў Неба, Яна адказала: "Ты павінен адгаварыць шмат Ружанцаў". Пастушок быў паслухмяны Валадарцы свету і рэгулярна адгаворваў малітву. Ружанец можа вырашыць любую праблему. Як казала другая сведка аб'яўленняў у Фаціме Слуга Божая с. Луцыя, "няма цяжкасці, якая б не была растлумачана гэтай малітвай".

У тым, што Ружанец з'яўляецца не толькі шчытом, але і падтрымкай у барацьбе са злым духам, запэўнівае сам д'ябал. Калі падчас абраду экзарцызму, якія праводзілі над нямецкай дзяўчынай Анэлізай Міхель, святар запытаўся ў д'ябла, чаго больш за ўсё баіцца, той з цяжкасцю выдавіў: "Ружанца, таму што гэта магутная зброя супраць сатаны і ўсіх дэманаў". Вымушаны адказваць на пытанні ў імя Бога, д'ябал наўпрост сказаў, што ружанец яго спальвае, падаўляе. А аднойчы падчас абраду экзарцызму святар паклаў ружанец на апантанага і пачуў жахлівы крык: "Здымі гэта, здымі! Не бачыш, што гэта мяне нішчыць? З мяне выходзяць вантробы!".

Сваёй зброяй Ружанец лічыў і св. айцец Піо з П'етрэльчыны. Аднойчы, адпраўляючыся на адпачынак, ён папрасіў сабрата: "Падай мне, калі ласка, зброю з кішэні хабіта". Крыху разгублены мужчына паслухмяна абшукаў кішэню. "Ойча, там няма ніякай зброі. Толькі ружанец", – патлумачыў. "А ружанец – гэта быццам бы не зброя?", – адказаў на гэта святар.

Падобных сведчанняў можна знайсці тысячы, і кожнае з іх пацвярджае, што Ружанец – самая магутная зброя супраць сіл зла. "Выкарыстоўвай яе ўпэўнена, і эфект цябе здзівіць", – казаў св. Хасэмарыя Эскрыва.

**Перавагі, якія можна атрымаць, адгаворваючы Ружанец з разважаннем таямніц:**

- **ачышчае душу ад грахоў;**
- **дазваляе перамагаць непрыяцеляў;**
- **аблягчае практыкаванне цнотаў;**
- **узносіць да дасканалага пазнання Езуса Хрыста;**
- **распальвае любоў да Збаўцы;**
- **робіць здольным сплачваць доўг Богу і людзям;**
- **выпрошвае разнастайныя ласкі ад Усемагутнага.**

### ВЯЛІКІ ДУХОЎНЫ ВЫКЛІК

Ружанец развівае ў сэрцы чалавека цярплівасць, пакору і міласэрнасць. З яго дапамогай мы змагаемся з эгаізмам і страсцямі. Гэтая малітва сталая і поўная, таму што заключаецца ў праслаўленні Бога праз Марыю і разам з тым у глыбокім разважанні жыцця Хрыста. Сутнасцю Ружанца з'яўляецца медытацыя, якая вядзе да з'яднання са Стварыцелем. Гэта сур'ёзны духоўны выклік!

Бясцэнны ўклад у развіццё ружанцовай малітвы ўнеслі манахі, якія практыкавалі жыццё пустэльнікаў-аскетаў. Яна напаўняла ўвесь іх дзень. Але гэта не значыць, што пазбягалі працы. Кожная распачатая справа спалучалася з ахвярай, складаемай Богу. Чым больш намаганняў, тым больш адданая малітва.

Сучасны чалавек не можа трываць у цішыні на працягу доўгага часу. Па гэтай прычыне медытацыйная малітва прычыняе яму шмат нязручнасцей. Часта, атакуемы тысячамі раздражняльнікаў, паглынуты штодзённымі абавязкамі і праблемамі, чалавек хутка вымотваецца і стамляецца. Але хоць ружанцовая малітва, магчыма, часам здаецца складанай, манатоннай і нуднай, не можам паддавацца і адмаўляцца ад яе, нягледзячы на мноства ўзнікаючых прычын для гэтага. Варта памятаць, што хоць праціўнік моцны, аднак на нашым баку стаіць значна магутнейшы Саюзнік.

Прыклад святых паказвае, што няма працейшага шляху для збаўлення, чым Ружанец. Няхай гэтая магутнасць будзе выкарыстана кожным, таму што дзякуючы ёй мы атрымліваем ахову ад д'ябальскіх спакус і становімся гатовымі супрацьстаяць усім цяжкасцям жыцця.



*У многіх аб'яўленнях Маці Божая заахвочвае да ружанцовай малітвы. У Фаціме асаблівым чынам падкрэслівае яе значэнне як сродка, неабходнага для навяртання свету.*

**Добрай парадай для таго, як лепш за ўсё маліцца Ружанец, з'яўляюцца словы св. Францішка Сальскага: "Вазьмі ружанец за крыжык і, пацалаваўшы яго, учыні ім на сабе знак крыжа і стань у Божай прысутнасці, гаворачы «Веру». На вялікай пацерцы папрасіш у Бога ласку набожнага адгаворвання малітвы, на трох меншых гэтую ж просьбу ўзнясеш да Найсвяцейшай Панны Марыі, усхваляючы Яе як Дачку Айца Спрадвечнага, Маці Божага Сына, Абранніцу Святога Духа. Затым адгаворыш пяць дзесяткаў, разважаючы радасныя, балесныя ці хвалебныя таямніцы, альбо таксама можаш засяродзіцца над іншым набожным прадметам, на які цябе Бог натхніць".**

*Кс. Юрый Марціновіч*



# КАСТРЫЧНІК 2019 – НАДЗВЫЧАЙНЫ МІСІЙНЫ МЕСЯЦ

***З нагоды стагоддзя апублікавання папам Бенедыктам XV Апостальскага ліста "Maximum illud" – дакумента, які меў на мэце абудзіць у цэлым Касцёле свядомасць місійнага абавязку – Святы Айцец Францішак абвясціў кастрычнік бягучага года Надзвычайным місійным месяцам. Дэвізам былі абраны словы: "Ахрышчаныя і пасланыя: Касцёл Хрыста з місіяй у свеце".***

Місіі – гэта тэма, якая датычыць усіх вернікаў. Кожны з нас павінен абудзіць у сэрцы жаданне абвяшчаць Евангелле і перамяняць сваю супольнасць у місійную і евангелізацыйную рэчаіснасць, памятаючы, што місіі з'яўляюцца "ўмілаваннем Езуса і любоўю да Яго люду".

**Гэтая перамена павінна адбыцца праз...**

- асабістую сустрэчу з Езусам Хрыстом, дзякуючы Эўхарыстыі, чытанню Божага слова, асабістай і супольнаснай малітве,
- вывучэнне сведчанняў святых місіянераў, якія загінулі мучаніцкай смерцю,
- паглыбленне біблійнай, катэхетычнай, духоўнай і тэалагічнай фармацыі, што датычыць місій "ad gentes",
- рэалізацыю любові ў форме падтрымкі вялікай справы місій "ad gentes" і хрысціянскай фармацыі ў Касцёлах, якія знаходзяцца ў найбольшай патрэбе.

***Мы павінны сведчыць пра тое, што Бог добры, найперш уласнымі паводзінамі. З гэтага пачынаецца кожная малая і вялікая місія. Варта памятаць, што быць місіянерам – значыць клапаціцца пра бліжняга і адорваць іншых людзей надзеяй.***

## МАЛІТВА НА НАДЗВЫЧАЙНЫ МІСІЙНЫ МЕСЯЦ

**Божа Ойча, Твой Адзінародны Сын, Езус Хрыстус, пасля ўваскрасення даручыў сваім вучням місію: "Ідзіце па ўсім свеце і навучайце ўсе народы". Ты прыгадваеш нам, што праз хрост сталі далучаны да місіі Касцёла. Праз дары Святога Духа Ты ўдзяліў нам ласкі, каб былі адважнымі і руплівымі сведкамі Евангелля, каб місія, даручаная Касцёлу, усё яшчэ далёкая ад поўнай рэалізацыі, магла знайсці новыя дзейсныя спосабы несці свету жыццё і святло. Учыні, каб мы так дзейнічалі, каб усе народы маглі сустрэцца са збаўчай любоўю і міласэрнасцю Езуса Хрыста, які жыве і валадарыць у адзінстве Святога Духа праз усе вякі вечныя. Амэн.**

*Падрыхтаваў кс. Юрый Марціновіч*

## НАВІНЫ



## ПІЛІГРЫМКА НА РАСПАЧАЦЦЕ НОВАГА НАВУЧАЛЬНАГА І КАТЭХЕТЫЧНАГА ГОДА

На традыцыі ў 3-юю нядзелю верасня дзеці і моладзь, настаўнікі і выхавацелі, выкладчыкі і катэхеты вырушаюць у Капцёўку (дэканат Гродна-захад), каб на парозе новага навучальнага і катэхетычнага года даручыць сябе мацярынскай апецы Найсвяцейшай Панны Марыі.

Сёлета св. Імшу ў санктуарыі Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Звяртаючыся да сабраных, іерарх звярнуў увагу на тое, што кожны навучэнец павінен не толькі прызнаваць па Божую ўсемагутнасць, але найперш сам старацца здабыць веды. Ён падкрэсліў значнасць катэхезы, якая не заканчваецца Першай Камуніяй. Біскуп нагадаў таксама пра вялікую адказнасць за Касцёл, якая ляжыць на маладым пакаленні і засноўваецца на дзяленні іх верай і прыкладам жыцця.

На заканчэнне ўрачыстасці іерарх асвяціў школьныя прылады і ўдзяліў прысутным пастырскае благаслаўленне. Пасля адбылася прэзентацыя парафіяльных груп і канцэрт гурта Душпастырства студэнтаў і старэйшай моладзі "OPEN".

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



На распачацце новага навучальнага года ў Гродзенскай ВДС адбыліся рэкалекцыі для клерыкаў. У ходзе св. Імшы, якая завяршала духоўныя практыкаванні, кс. бп Юзаф Станеўскі ўдзяліў паслугу лектарату навучэнцу 4-га курса Віталію Гурцу. З гэтага моманту семінарыст будзе абвяшчаць жыццядайную моц Святога Пісання з амбоны падчас цэлебрацыі Эўхарыстыі.

### КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



Пры касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне адбыўся II Дыяцэзіяльны фестываль рэлігійнай песні, які сабраў здольных артыстаў з многіх парафій дыяцэзіі. На сцэне выступілі салісты, дуэты, а таксама дзіцяча-моладзевыя гурты. Кульмінацыяй фестывалю стала св. Імша, якую ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Іерарх выказаў радасць у сувязі з тым, што "наша зямля мае столькі таленавітых маладых артыстаў, якія спевам праслаўляюць Пана Бога". Напрыканцы ён таксама падзякаваў арганізатарам за прыкладзеныя намаганні ў правядзенні гэтага музычнага форуму.

### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі наведаў лідскую парафію Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі на заканчэнне 40-гадзіннага набажэнства. Падчас цэлебрацыі Эўхарыстыі іерарх удзяліў групе вернікаў сакрамант хрысціянскай сталасці. Біскуп таксама прыняў удзел ва ўрачыстым благаслаўленні моладзі і студэнтаў на новы навучальны год у мінскай архікатэдры Імя Найсвяцейшай Панны Марыі.

З нагоды адпустовай урачыстасці Узвышэння Святога Крыжа дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі наведаў лідскую фару, дзе ўзначаліў урачыстую св. Імшу з удзелам шматлікіх святароў і вернікаў.

### АДНЫМ РАДКОМ

• Сустрэча шэфаў-скаўтак з Беларусі адбылася ў Тракелях. • 25 чалавек далучыліся да малітоўнай групы апостальскага руху "Маргарытка" ў парафіі Макараўцы (дэканат Вялікая Бераставіца). • У парафіі ў Гудагаі (дэканат Астравец) прынялі новых членаў літургічнай службы алтара. • Выйшаў 10-ты юбілейны нумар парафіяльнай газеты "Каталіцкі Навагрудак". • На I курс тэалагічнага каледжа св. Казіміра ў Гродне залічаны 17 навучэнцаў. • У касцёле ў Мастах упершыню ў Беларусі адбыліся рэкалекцыі для моладзі "Talitha Kum". • С. Філатэя Ціхановіч CSFN адзначыла 25-годдзе манаскага жыцця. • Выйшаў дыск хору "Vox Domini" з гродзенскай парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля. • Фармацыйная сустрэча для ксяндзоў Гродзенскай дыяцэзіі ад 1 да 8 гадоў святарства адбылася ў рэкалекцыйным доме ў Тракелях. • Пры парафіі св. Міхала Арханёла ў Навагрудку прайшлі рэкалекцыі для айцоў кармэлітаў босых. • У гродзенскай катэдры адбылася св. Імша з нагоды 70-годдзя кс. б-па Аляксандра Кашкевіча.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by***.

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**30 верасня 1957 г.** – кс. Тэафіл Прышмант, *проб. Старыя Васілішкі;*
**30 верасня 1973 г.** – кс. Пётр Нямыцкі, *проб. Астравец;*
**1 кастрычніка 1984 г.** – кс. Казімір Валентыновіч, *проб. Мсцібава;*
**3 кастрычніка 1968 г.** – кс. Адольф Сакалоўскі, *проб. Міхалішкі;*
**6 кастрычніка 1996 г.** – кс. Станіслаў Роек SchP, *проб. Ліда;*
**6 кастрычніка 2002 г.** – кс. Антоній Саміла, *проб. Гожа, Путрышкі, Прывалка;*
**7 кастрычніка 1960 г.** – бр. Пантэлеон Жэброўскі SchP, *Ліда;*
**7 кастрычніка 1962 г.** – кс. Уладзіслаў Красоўскі, *проб. Галынка;*
**13 кастрычніка 1992 г.** – кс. Валянцін Кублік SJ, *душп. Індура.*

## АНОНСЫ

### IX ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАЯ СУСТРЭЧА ВЫКЛАДЧЫКАЎ, НАСТАЎНІКАЎ І ВЫХАВАЦЕЛЯЎ АДБУДЗЕЦЦА Ў ТРАКЕЛЯХ

**Яна будзе прымеркавана да Дня настаўніка, які сёлета адзначаецца 6 кастрычніка.**

**Праграма сустрэчы:**
11.00 – прывітанне і агульная малітва;
11.15 – канферэнцыя на тэму "Супольнасць Касцёла – месца сустрэчы з Езусам і іншым чалавекам";
– перапынак на каву;
12.00 – выстаўленне і адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;
13.00 – св. Імша;
14.00 – абед;
15.00 – Вяночак да Божай міласэрнасці;
– праца ў групах на тэму "Настаўнік у супольнасці Касцёла, парафіі, школы і сям'і";
– перапынак на каву;
16.30 – падвядзенне вынікаў працы ў групах і завяршэнне сустрэчы супольнай малітвай.

Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч запрашае ў санктуарый Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў усіх зацікаўленых.

*Заяўку на ўдзел у мерапрыемстве неабходна падаць да 3 кастрычніка адказнаму за сустрэчу кс. каноніку Антонію Грэмзу праз сваіх пробашчаў або асабіста па тэлефоне: (8 029) 286-31-78, (8 029) 632-43-73.*

### РЭКАЛЕКЦЫІ ЦВЯРОЗАСЦІ ПРОЙДУЦЬ У БАРАНАВІЧАХ

**Духоўныя практыкаванні ладзіць душпастырства цвярозасці Гродзенскай дыяцэзіі.**

Рэкалекцыі запланаваны на 11–13 кастрычніка. Адбудуцца ў доме айцоў вербістаў па вул. Т. Шаўчэнкі, 6.

Арганізатары запрашаюць да ўдзелу ўсіх, каго хвалюе праблема алкагалізму і наркаманіі ў Беларусі.

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (8 033) 325-57-64, (8 029) 178-36-34 – Юрый Гапонік.*

### У ГРОДНЕ ПАЧЫНАЮЦЦА ФАРМАЦЫЙНЫЯ СУСТРЭЧЫ ШКАПЛЕРНАГА БРАЦТВА

**Яны будуць праходзіць у парафіях Найсвяцейшага Адкупіцеля (Дзевятоўка) і Маці Божай Вастрабрамскай (Аўгустовак) 2 і 30 лістапада, 4 студзеня, 1 лютага, 7 сакавіка, 4 красавіка, 2 мая і 6 чэрвеня.**

Айцы кармэліты, якія праводзяць гэтыя сустрэчы, запрашаюць усіх, хто носіць святы шкаплер Марыі з гары Кармэль, а таксама ўсіх, хто цікавіцца кармэліцкай духоўнасцю і прагне наследаваць цноты Маці Божай у сваім штодзённым жыцці. Заахвочваюцца і жадаючыя атрымаць шкаплер з рук айцоў кармэлітаў, што можна зрабіць падчас кожнай сустрэчы.

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (8 044) 589-68-98 – а. Аляксандр Стока OCD.*

У сувязі з судовым працэсам у Касцёльным судзе Гродзенскай дыяцэзіі, **спадара Карповіча Віктара Францавіча**, які 22.08.1998 года ў парафіяльным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне ўзяў шлюб са **спадарыняй Яцэнка (Ганчар) Ірынай Іванаўнай**, просім звярнуцца ў сядзібу Касцёльнага суда ў Гродне па адрасе: **вул. К. Маркса, 4** – або па тэлефоне **(8 0152) 75-64-37.**

Чытачоў, якія ведаюць адрас пражывання ці валодаюць інфармацыяй пра месца побыту спадара Карповіча Віктара, просім паведаміць аб гэтым у Касцёльны суд.

## Каляндар падзей

***30 верасня***
*Успамін св. Гераніма, прэзбітара і доктара Касцёла.*

***1–31 кастрычніка***
*Надзвычайны місійны месяц, абвешчаны папам Францішкам.*

***1 кастрычніка***
*Успамін св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езус. Распачацце кастрычніцкага набажэнства. Заахвочваем да ружанцовай малітвы ў парафіяльных супольнасцях і сем'ях.*

***2 кастрычніка***
*Успамін свсв. Анёлаў-ахоўнікаў.*

***4 кастрычніка***
*Успамін св. Францішка Асізскага. Дзень імянін Святога Айца Францішка.*

***5 кастрычніка***
*Успамін св. Фаўстыны Кавальскай.*

***6 кастрычніка***
*Нацыянальны дзень малітвы за выкладчыкаў, настаўнікаў, выхавацеляў і катэхетаў.*

***7 кастрычніка***
*Успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Кастрычнік***
*Аб даху над галавой для бяздомных і працы для беспрацоўных.*
*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Асвятленне падзей з жыцця Касцёла на Гродзеншчыне. Даступны фотаі відэаматэрыялы.*

## Дзіцячы куточак

# Марыя заклікае маліцца на ружанцы

***Прывітанне, Маленькі Чытач! Неўзабаве распачнецца кастрычнік, які ў Касцёле з'яўляецца месяцам, прысвечаным, у прыватнасці, ружанцовай малітве. У гэты час вернікі збіраюцца разам, каб усхваляць Маці Божую Ружанцовую і разважаць над таямніцамі святога Ружанца, якія апісваюць важныя падзеі з жыцця Езуса Хрыста і Яго Маці Марыі.***

***А ці Ты ведаў, што Ружанцовая малітва здольна перамяніць свет, асабліва калі людзі адгаворваюць яе разам? Шмат разоў ружанцовая малітва, прамоўленая з верай, уплывала на лёсы народаў, пераменьвала жыццё чалавека. Ружанец можа тварыць цуды!***

*Сёння я хачу падзяліцца з Табой гісторыяй, якая здарылася з адным манахам. Ён меў звычай кожны дзень перад абедам маліцца 50 разоў "Вітай, Марыя".*

***У адным горадзе жыў гультаяваты хлопец. Меў усе ўмовы для вучобы, аднак з-за ляноты і незацікаўленасці ён, нягледзячы на строгае выкладанне, нічаму не вучыўся. У галаве свавольніка было толькі жаданне забаўляцца. Тым не менш, ён меў цудоўную звычку ўшаноўваць Найсвяцейшую Багародзіцу, кожны дзень сплятаючы вянок, каб ускласці яго на статую. Аздабляючы фігуру Маці Божай, заўсёды казаў: "Панна Марыя, ува мне не шмат добрага, але дазволь рабіць хоць гэта – плясці вянкі для Цябе".***

***З цягам часу хлопец адчуў ласку і жаданне ўступіць у манастыр. Там жыў, як і іншыя, паводле строгага правіла. Аднойчы, праходзячы міма статуі Найсвяцейшай Панны Марыі, ён успомніў пра сваю такую прыемную, але закінутую звычку. Будучы манахам не меў магчымасці шукаць кветкі і зеляніну з дня ў дзень, каб плесці вянкі. Гэта яго так засмуціла, што ўжо думаў пакінуць манастыр. Аднак стары манах, якому даверыўся ў сваім клопаце, падказаў спосаб, якім таксама можна штодзённа "сплятаць" Маці Божай вянок – нашмат прыгажэйшы, чым з кветак і зеляніны. "Калі ты хочаш усцешыць Марыю, – раіў старэйшы сабрат, – пляці вянок з высакародных учынкаў". Уплятай у яго словы праслаўлення. Паабяцай Маці Божай кожны дзень да канца жыцця адгаворваць 50 «Вітай, Марыя». Павер, такі вянок Ёй больш спадабаецца, чым з лілей ці руж". Малады манах з радасцю адгукнуўся на гэтую прапанову.***

***Божае бласлаўленне не прымусіла яго доўга чакаць. Аднойчы настаяцель адправіў манаха ў дарогу, каб той вырашыў некаторыя пытанні ордэна. Апоўдні ён спыніўся на лясной паляне і саскочыў з каня, каб памаліцца сваёй штодзённай малітвай да Марыі. Не ведаў, што 2 разбойнікі накіроўваліся ўслед за ім, каб абрабаваць пры нагодзе. Калі манах пачаў маліцца, злачынцы ўбачылі побач высакародную Жанчыну, якая здымала з яго вуснаў ружы. Пасля Яна сплятала іх у адзін цудоўны вянок, усклала сабе на галаву і знікла.***

***Разбойнікі вельмі хацелі даведацца, кім была тая цудоўная Жанчына. Яны выскачылі з кустоў, каб абабраць манаха, і сталі дапытваць яго. Аднак той не бачыў нікога побач, таму не мог адказаць злодзеям. Нарэшце ён зразумеў, што гэта Найсвяцейшая Панна Марыя дала знак. Поўны радасці, аддаў хвалу Ёй і Богу, а затым распавёў усё разбойнікам. Расказаў пра ласку, якую атрымаў сам і якая цяпер павінна навярнуць іх.***

***І сапраўды, разбойнікі задумаліся над сваім жыццём, пакаяліся і навярнуліся. Яны суправадзілі манаха ў манастыр і неўзабаве самі сталі добрымі і набожнымі манахамі.***

*Дарагі Маленькі Сябар, гэтая гісторыя вучыць нас маліцца да Маці Божай. Няхай ружанцовая малітва і для Цябе стане прыгожай звычкай, каб быць у сувязі з Найсвяцейшай Паннай Марыяй, якая любіць, абараняе нас і заўсёды дапамагае.*

***Заданне:*** ***папрасі бацькоў, каб растлумачылі Табе таямніцы Ружанца, і напішы інтэнцыі, у якіх будзеш маліцца кожны дзень на працягу кастрычніка.***

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

# Ад шчырага сэрца

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**
з нагоды юбілею жадаем усяго найлепшага: Божай любові і людской зычлівасці. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Вас за ахвярную працу, бласлаўляе кожны дзень паслугі, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваім клопатам і заступніцтвам на працягу ўсяго жыцця.
*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**
з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця і бясконцых сіл. Няхай высілак змагання са штодзённасцю дазволіць заўважыць прыгажосць і глыбіню жыцця. Няхай на шляху, які ўказаў Пан, Вам заўсёды спадарожнічаюць Езус і Яго Найсвяцейшая Маці, адорваючы бласлаўленнем і патрэбнымі ласкамі, а Святы Дух, святло якога Вы носіце ў сэрцы, будзе шчодрым на свае дары.
*З павагай вернікі і святары з парафіі Беззаганнага Зачацця НПМ у Гродне*

**Паважанаму Айцу Багуславу Вуйтовічу**
з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: добрага здароўя на доўгія гады жыцця і шмат сіл. Няхай Езус адорыць патрэбнымі ласкамі, а Маці Божая нястомна мае ў сваёй апецы. Шчасці Божа!
*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Гальшанаў*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Стэцкевічу**
з нагоды Імянін жадаем шчодрых Божых ласкаў, радасці, шмат сіл, моцнага здароўя, запалу і натхнення, зычлівых людзей побач, апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай Ваша сэрца напаўняецца міласцю, а прамяні міласэрнасці асвятляюць жыццёвы шлях.
*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Бердаўкі і Першамайска*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**
з нагоды Імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: бласлаўлення ад Езуса Хрыста, добрага здароўя на доўгія гады, нязгаснага запалу ў працы, сілы, душэўнага супакою, шчодрага плёну на Божай ніве і сталай апекі Найсвяцейшай Маці.
*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Капцёўкі*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**
з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, добрых і зычлівых людзей, гатовых прыйсці на дапамогу. Няхай Святы Дух асвячае сваім святлом Ваш святарскі шлях, а Найсвяцейшая Маці ахінае плашчом мацярынскай любові.
*З памяццю ў малітве Андрэй Слонімец і члены Апостальства дапамогі чысцовым душам Гродзенскай дыяцэзіі*

**Паважанаму Ксяндзу Анатолю Захарэўскаму**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Хай добры Бог ад бед ліхіх Цябе засцерагае, А Святы Дух сваім святлом штодзённа ўзмацняе. Хай Езус Пан у душы Тваёй нястомна чыніць цуды, Каб плён стакротны Тваіх прац быў бачны нам усюды.
*Вернікі з парафіі св. Міхала Арханёла ў Міхалішках*

**Паважаны Ксёндз Юрый Грыцко!**
Прыміце самыя шчырыя віншаванні ў дзень Вашага нараджэння! Здароўя моцнага жадаем, Малітву да неба пасылаем, Каб сілу духа Бог Вам даў, Цярпення да людзей паслаў, А Маці Божа дарагая Плашчом любові ахінала. Сёння свята адзначаем І Вам вершы прысвячаем. Хочам мы зрабіць прызнанне: Вы наш узор для пераймання. Зладзіце з любым заданнем, Нават з самым нерэальным. Хай заўсёды гэтак будзе: Паважаюць, любяць людзі. Хай і Неба будзе з Вамі, А малітва акрыляе. Вы прабачце грэшных нас, Што пакрыўдзілі падчас. Хай за гэта добры Бог Зберажэ Вас ад трывог!
*Вернікі з вёсак Хадзілоні і Стары Паддубы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Руслану Мазану**
з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, Божага бласлаўлення і міласэрнасці, а таксама ўсіх дароў Святога Духа. Няхай кожны дзень будзе сонечным, радасным і шчаслівым. Няхай Маці Божая нястомна Вамі апекуецца і атуляе сваім плашчом.
*Вернікі і Ружанцовае кола св. Яна Непамуцэна са Станевічаў*

**Паважанай Спадарыні Леакадзіі Ластоўскай**
з нагоды юбілею 70-годдзя складаем сардэчныя пажаданні: радасці, супакою і поспехаў. Няхай Хрыстос асвячае сцежкі штодзённага жыцця, напаўняе надзеяй, верай, любоўю і бласлаўленнем, Святы Дух адорвае ўсімі ласкамі, а Маці Божая дадае сіл, каб крочыць наперад.
*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з парафіі Капцёўка*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**
з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: здароўя на доўгія гады жыцця, плённай працы на Божай ніве, нястомнай апекі святога Заступніка і Найсвяцейшай Панны Марыі, а таксама шчодрых дароў Святога Духа. Няхай смутак Вас абмінае, а жыццё плыве ў радасці. Шчасці Божа!
*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і Ружанцовыя колы з парафіі Капцёўка*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**
з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, Божай моцы, радасных дзён жыцця, душэўнага супакою і добразычлівых людзей побач. Няхай Маці Божая атуляе Вас сваім плашчом, а Святы Дух удзяляе шчодрыя дары. Дзякуем за добрае сэрца, адкрытае на людскія патрэбы, і час, які ўдзяляеце нам.
*Вернікі з парафіі Гродна-Аўгустовак*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Малафею**
з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Айцец Нябесны адорвае ласкай здароўя, Хрыстос заўсёды вядзе па сваіх сцежках, а Святы Дух удзяляе шчодрыя дары. Дзякуем Вам за ўсе выразы пастырскага клопату аб дарučаным Вам Божым людзе. Да віншаванняў далучаем малітву, а Вашу паслугу даручаем у рукі Маці Божай.
*Вернікі з парафіі Гродна-Аўгустовак*

**Паважанаму Ксяндзу Руслану Мазану**
з нагоды Дня нараджэння жадаем усіх Божых ласкаў, моцнага здароўя, радасці, любові і непахіснай веры. Няхай Хрыстос мае Цябе ў сваёй апецы, Найсвяцейшая Маці ахінае клопатам, а Святы Дух шчодра ўдзяляе патрэбныя дары.
*Сем'і Кахновіч і Гайдук*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Руслану Мазану**
з нагоды Дня нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні: Божага бласлаўлення на кожны дзень святарскай паслугі, апекі Найсвяцейшай Маці, шчодрых дароў Святога Духа. Няхай здароўе, радасць і спакой ніколі Вас не пакідаюць.
*Францішканскі ордэн свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў*

**Паважанаму Ксяндзу Руслану Мазану**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў і нястомнай апекі Панны Марыі, моцнага здароўя, радасці на кожны дзень, душэўнага супакою. Няхай добры Бог заўсёды выслухоўвае Вашы малітвы і дапамагае ў цяжкія хвіліны. Дзякуем за нязгасны запал у святарскай паслузе, за Вашу ахвярную працу на карысць Богу і людзям, штодзённы клопат пра парафіян, ветлівасць, добрыя словы і ўчынкі.
*З памяццю ў малітве Касцёльны камітэт і вернікі з парафіі Вялікія Эйсманты*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**
з нагоды Імянін жадаем шчодрых Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка. Няхай здароўе спрыяе, кожны дзень будзе поўны радасці і ўсмешак, а святарская паслуга будзе бласлаўлёнай.
*Удзячныя вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Дарагой Зоф'і Кураноўскай**
з нагоды 80-годдзя складаем мноства сардэчных пажаданняў: моцнага здароўя, душэўнага супакою, Божага бласлаўлення і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі.
*Дочкі Люцына і Яніна з сем'ямі, пляменніца Тэрэза з сям'ёй*

**Шаноўным Спадарству Ганне і Станіславу Цыдзік**
з нагоды 50-ай гадавіны шлюбу перасылаю сардэчныя пажаданні: Божага бласлаўлення на кожны дзень жыцця, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай здароўе, радасць і супакой ніколі Вас не пакідаюць, а блізкія заўсёды памятаюць пра Вас. Шчасці Божа!
*Антаніна*

**Паважанаму Ксяндзу Станіславу Лабану**
ў сувязі са смерцю бацькі перасылаем словы шчырага жалю і спачування. Яднаемся з Вамі ў малітве аб вечным супакоі для памерлага.
*Былыя парафіяне з Радуні*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;** заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 3745; тыраж 5045; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты. Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная